ISSN 0700-5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К. Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Былых Беларускіх Вайскоўцаў

ZVAZAJ. Veterans quarterly published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. Canada Office: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2 U.S. address: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904, U.S.

Год 16 Сакавік, 1990 Нр. 1, (57)

## ІДЭЯ, ЯКОЙ ПРЫЙШЛА ПАРА́

Мудры чалавек сказаў, што неперамажнай ёсьць ідэя, якой прыйшла пара̄. Праўда, заходнія мудрацы запэўніваюць, што не адным гэтым трэба тлумачыць тое, што сталася кагадзе ў цантральнай і ўсходняй Эўропе. Шматлікія славяць за гэта Гарбачова...

Польшча, Усходняя Нямеччына, Вугоршчына, Чэхаславаччына, Румынія... Гэтым народам на працягу амаль паўстагодзьдзя ўбівалі ў галовы дыялектыку пра "найбольш прагрэсыўны лад на сьвеце", пра "гістарычна няўхільную перамогу" гэтага ладу на ўсім сьвеце розныя палітрукі й марксыстаўскія жрацы.

А паняволеныя пабачылі, што давялі іх да торбы, што далей нельга бязь веры ў Бога, без гуманітарнае навукі, без адраджэньня культурнага й нацыянальнага. Прыйшла пара змаганьня за правы чалавека, за вольнасьць народаў. Пара змаганьня з наймагутнейшай крымінальнай сыстэмай тэрору й паразітызму, якую за ўсю сваю гісторыю стварыў чалавек.

Пад напорам ідэі, якой прыйшла пара, трэснула й рынула няслаўная бэрлінская сьцяна, паляцела з наседжаных гнёздаў паразітная камуністычная буржуазія. Марксызм - сацыялізм - камунізм, як ідэялёгія, апынулася на сьметніку.

— Чэхаславацкая рэспубліка выкіне са сваёй канстытуцыі перадумову, што адукацыя базуецца на духу марксызму-ленінізму, — сказаў у часе гвалтоўнага пераломy ў Празе дзеяч новага ўраду Мар'ян Кальфа. — Адукацыя пойдзе ў гармоніі з навуковымі ведамі й прынцыпамі гуманітарнасьці.

Паняволеныя ўчора народы сяньня пачынаюць новае жыцьцё на руінах, створаных паразітнай камуністычнай буржуазіяй. Працэс гэты няспынны. Расьце й магутнее і зьмяце з твару зямлі зьненавіджаную народазабойчую крымінальную сыстэму неперамажная ідэя. І адыйдуць камуністычныя нікчэмнікі ў нябыт. Ідзе наперад неперамажная ідэя запраўднага духовага адраджэньня й вольнасьці чалавека, свабоды ўсіх народаў. І рыпіць у вэрхале галоснасьці й перабудовы маскоўска-бальшавіцкі молах — "імпэрыя зла". Яна апынулася перад няўхільным крахам!

І камэнтавалі тыя выдатныя падзеі разумненькія заходнія саветалёгі. Свабода! Гарбачову дзякуйце! Цяжка паверыць, што валяць бэрлінскую сьцяну. Яднаецца Нямеччына. Свабода крочыць вуліцамі Бэрліну, Будапэшту, Празе дый акрываўленага Бухарэсту. Дальбог, навет у Сафіі заварушыліся. Урррааа! На вокладцы сусьветна вядомага часопісу "Тайм" зьявіўся партрэт "чалавека дэкады" генсака кампартыі і прэзыдэнта маскоўскае імпэрыі Міхаіла Гарбачова. Пра Роналда Рэйгана, што пасьля няўдалае тэлевізійнае вайны ў Ветнаме паставіў рашчараваную Амэрыку на ногі і адбудаваў ейную мілітарную магутнасьць ды пра Маргарэту Тачэр, што выгнала зь Вялікае Брытаніі зьнішчальны сацыялізм да вярнула ёй жыцьцядайныя сілы, — пра гэтых выдатных людзей апошняга дзесяцігодзьдзя забыліся. Калі-б не яны, ня рынулі-б маскоўскія сатэліты!

Наіўныя, нічога гісторыяй ненавучаныя заходнія саветалёгі й палітыкі! Плявузгайце далей, а вашы бізнэсмэны ўжо пасьпяшылі ў мэкку савецкае імпэрыі, каб,— перафразаваўшы Леніна,— "прадаваць вяроўкі, на якіх камуністычная буржуазія мае намеры некалі іх павесіць".

Наіўныя людзі! Чаму забываецеся, што цэлы апарат рэпрэсіі — армію, паліцыю, КГБ, — моцна трымае ў сваіх руках старая гвардыя камуністычных нікчэмнікаў-паразітаў? Адно дадуць зьверху сыгнал і зноў у крыві міліёнаў будуць намагацца цягнуць на могільнік тую вялікую ідэю.

Паразіт-тытан ранены, але не дабіты. Тады, калі будуць уцякаць маскоўскія цівуны зь Менску й Кіева, Вільні, Рыгі й Таліна, зь Ерэвану, Баку й Ташкенту, калі іхніх "саўдзельнікаў у злачынствах" "раскаваныя рабы" пацягнуць на ўсенародны суд, ды калі адважныя змагары заатакуюць крамлёўскую сьцяну ў Маскве, толькі тады зазьзяе сонца запраўднае свабоды.

Верым, — гэты час не за гарамі. І ўжо дрыжаць зь перапалоху камуністычныя паразіты. Ды ўсё-ж сяньня апарат рэпрэсіі ў іхніх руках.

Некалі прэзыдэнт Рузвэльт сказаў: "Нам няма чаго баяцца апроч самой боязі". Гэта павінны поўнасьцю ўсьведаміць слабейшыя. Асабліва-ж цяпер, калі вялікай неперамажнай і вечна праўдзівай ідэі прыйшла пара! Каб хутчэй да перамогі. І каб па дарозе было найменш ахвяраў.

*К. Акула*

# НАРОД КЛІЧА НАС НА ПОМАЧ!

(*Заканчэньне. Пачатак гл. нр. 56*)

**Новая 'тэхналёгія' атрыманьня чыстых прадуктаў... Прывозяць з забруджаных раёнаў 'брудных' бычкоў, сьвіней, ставяць іх на чыстыя кармы месяцаў на тры-чатыры — і...**

**А ў выніку: забруджваецца тая мясцовасьць, якая дагэтуль была параўнальна чыстая, атручваемся мясам ад гэтых 'чыстых' бычкоў і сьвіней усе мы, людзі...**

Супрацоўніца тэлебачаньня расказвае, як была яна ў Хойніках у першыя дні пасьля аварыі, здымалі эвакуацыю людзей з засыпаных радыеактыўнымі часьцінкамі вёсак...

— А як-бы паглядзець тыя кадры? — прашу я.

— А іх няма, — апусьціла вочы долу супрацоўніца. — Калі мы вярнуліся, кадры гэтыя былі ў нас забраныя. Прывезьлі размагнічаныя стужкі...

— Хто такі загад даў?

— Ды, відаць, тыя, хто забараніў гаварыць праўду пра памеры чарнобыльскай бяды, браўся без староньняй дапамогі справіцца з гэтай бядой у Беларусі...

На ліквідацыю чарнобыльскай аварыі пайшло нямала сродкаў. Але ці разумна яны выдаткаваныя? Колькі патрачана грошай, ды і сіл, на дэзактывацыю тых месцаў, дзе яе ня трэба было праводзіць, — нічога-ж яна не дала, ды і даць ня можа: змытыя радыеактыўныя часьцінкі пераносяцца зь месца на месца, само-ж радыяцыйнае атановішча не мяняецца. Дэзактывацыя — гэта хутчэй за ўсё чарговая паказуха. А будаўніцтва пасёлкаў, магазінаў там, дзе іх ніяк нельга было будаваць? Ды і на надбаўкі да зарплаты, якія назвалі ў народзе грабавыя (магільныя, ці што? — К.А.), камандзіровачныя розныя, фактычна, на дадатковае апраменьваньне людзей колькі растрачана народных грошай і прадаўжаецца траціцца, хоць вядома ўсім, даказана вучонымі, што зямля, на якую выпалі радыеактыўныя часьцінкі, няпрыгодная для жыцьця чалавека, а тым больш для сельскагаспадарчай дзейнасьці...

Многія 'прызнаньні' некаторых надзеленых уладай асобаў наводзяць мяне на сумны роздум. Вось хоць-бы такія:

'Першая поўная карта бліжэйшага сьледу (да 100 км ад месца аварыі) была прадстаўленая Дзяржкамгідраметам СССР урадавай камісіі ўжо 2 мая 1986 году'. А надрукаваная-ж карта стала вядомая грамадзкасьці толькі праз тры гады! І то — па цэзіі-137. А па іншых радыеактыўных элемэнтах — а іх дзясяткі — калі будуць надрукаваныя карты?

'Найбольш магутныя выкіды радыеактыўных рэчываў з аварыйнага блёку назіраліся ў першыя 2-3 сутак пасьля аварыі ў паўночна-заходнім і паўночна-ўсходнім напрамку. Вышыня струменю 27 красавіка, паводле самалётных дадзеных, перавышала 1200 мэтраў'. Чаму-б, здавалася, тады не папярэдзіць людзей — маіх землякоў, каб яны ня выходзілі на вуліцу, не працавалі ў полі, не загаралі?

Адказны сакратар камісіі АН СССР па біясфэрных і экалягічных дасьледаваньнях Я.Салаўёў пісаў у 'Литературной газете' (5.7.1989 г.), што 'дадзеныя пра Чарнобыль, пачынаючы з моманту ўзьнікненьня аварыі, **настойліва хаваліся ад насельніцтва.** І пра радыеактыўнасьць, і меры забруджваньня, і пра канцэнтрацыю рэчываў'. Хаваліся. А колькі чаго хаваецца і цяпер некаторымі асобамі, бо інакш ня зьдзіўлялі-б сьвет вучоныя мужы з мэдыцыны такімі паведамленьнямі, як: 'у агульнай структуры захворваньняў дарослага насельніцтва, якое падвергласся радыяцыйнаму ўзьдзеяньню, за тры гады значных зьменаў не адбылося'. Праўда, Ю.Шчарбак у 'Литературной газете' сказаў у чым тут справа: 'На нядаўняй прэсканфэрэнцыі ў Кіеве мэдыкі кляліся: былі, маўляў, зьвязаныя па руках і нагах сакрэтнасьцю. Падпіску-ж давалі аб неразгалошваньні дадзеных'.

Ня дзіўна, што ў большасьці людзей, ды і ў мяне, няма ніякага даверу да афіцыйнай інфармацыі, якая датычыць чарнобыльскай бяды. Нават зьявіўся недавер і да вучоных з тытуламі, званьнямі. Хоць сярод іх, вядома, ёсьць і тыя, каму нельга ня верыць. Вось што, напрыклад, пісаў нядаўна ў газэце 'Вячэрні Мінск' народны дэпутат СССР, прафэсар С.С.Шушкевіч: 'Не навука, а сучасная лысенкаўшчына знайшла сваіх прадстаўнікоў з тытуламі і званьнямі для выступленьня ў прэсе з запэўненьнямі, што жыць у забруджаных раёнах ледзь ці ня лепш, чым адпачыць у здраўніцах Каўказу і Крыму. Не навука рэкамэндавала будаваць новыя жылыя масівы ў зонах забруджваньня і разбаўляць радыеактыўнае мяса чыстым для атрыманьня прымальнага ўзроўню радыеактыўнасьці каўбасы...'

'На судзе ў Чарнобылі былі выдзеленыя яшчэ тры справы: адна — супраць праекціроўшчыкаў, другая — супраць тых, хто кіраваў ядзернай энэргетыкай, трэцяя — супраць тых, хто ня прыняў патрэбных мераў для эвакуацыі і абароны насельніцтва. Ну, і дзе гэтыя справы? Яны пасьпяхова не адбыліся'. ('Аргументы и факты' 15-21 ліпеня).

Нарэшце прызнана, што ў Беларусі ня ўсё зроблена для ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Групу народных дэпутатаў СССР прыняў Старшыня Савету Міністраў СССР М.І.Рыжкоў, выдзеленыя дадатковыя сродкі, прадукты, мэдыкаменты... На Першым экалягічным зьезьдзе Беларусі адна кіраўнічая дама патрабавала забараніць пісаць і гаварыць пра чарнобыльскую бяду, бо, маўляў, 'вопрос этот, благодаря своевременному вмешательству вышестоящих органов, полностью снят с повестки дня'.

Як-бы ўсе хацелі, каб гэтае пытаньне сапраўды было зьнятае з парадку дня. Але-ж аднаго нашага жаданьня мала. Ёсьць суровая, страшная рэчаіснасьць, праўда, ад якой нікуды ня дзенешся. Законы прыроды не падуладныя загадам з кабінэтаў начальнікаў нават самых высокіх рангаў. Трэба прывыкаць, што чарнобыльская бяда — ня памяць, як хацеў сяго-таго пераканаць на Зьезьдзе народных дэпутатаў СССР адзін з народных дэпутатаў ад нашай рэспублікі, а боль, незагойная, крывавая рана. Выпала-ж на тэрыторыі рэспублікі столькі радыеактыўных рэчываў і яны так марудна распадаюцца, сеючы навокал сябе сьмерць, што іх хопіць і нам, і нашым дзецям, і унукам, і праўнукам... І гэтыя рэчывы, як-бы мы не хацелі, забяруць сваё ахвяры — чалавечыя жыцьці. Ды ўжо часткова і забралі."

***Вышэй прыведзеныя вытрымкі з Сачанкавага артыкулу (а ён, гэны артыкул, прынамсі удвая даўжэйшы) ясна паказваюць жахлівае становішча "забруджаных" раёнаў і іхных жыхароў. А тым, зьверху, якія стварылі і самую чарнобыльскую АЭС, і ейную аварыю, галовы не баляць. Яны шмат чаго засакрэцілі, а цяпер, як ужо ўсім відаць якія жахі прынесла радыяцыя, ім хацелася-б усю чарнобыльскую праблему ліквідаваць... "указамі".***

*Адразу пасьля аварыі бальшавіцкая прапаганда шумела аб вялікіх намаганьнях і вось вось імгненных кроках, якія ўлады робяць для перасяленьня людзей з радыяцыйных зонаў, для помачы пацярпеўшым. А як выглядала тое перасяленьне й тое забясьпечаньне на новым месцы? Прыкладам можа быць справаздача Д.Лупача, спэцкарэспандэнта часопісу "Беларусь", зьмешчаная п. заг. "Перасяленцы" ў сёлетнім 6-м н-ры часапісу, які амаль увесь прысьвечаны вынікам чарнобыльскаіі аварыі ў Беларусі.*

"У вёсцы Губічы Буда-Кашалёўскага раёну я ўпяршыню пабываў восеньню 1986 году. Менавіта сюды амаль у поўным складзе пераехалі жыць працаўнікі былога калгасу імя Леніна Брагінскага раёну, бо ўсе вёскі гэтай гаспадаркі, што аказаліся ў трыццацікілямэтравай зоне Чарнобыльскай АЭС, трапілі пад высяленьне. Шумна было тады на вуліцах. Снаўдалі туды-сюды бульдозары, рыпелі лябёдкі пад'ёмных кранаў, натужана гудзелі цяжка нагружаныя будаўнічымі матар'яламі аўтамашыны... Краіна актыўна адгукнулася на бяду людзей, і для перасяленцаў у тэрміновым парадку будавалася жыльлё.

І вось я зноў у Губічах, у калгасе імя Энгельса. Адчуваньне, быццам толькі ўчора быў тут. Такая-ж, калі нават ня большая, гразь на вуліцах. Зьдзівіла і цішыня на незакончаных будаўнічых пляцоўках.

— Ашукалі нас, — стомлена сказаў пры сустрэчы даўні знаёмы, старшыня калгасу Мікалай Раманавіч Гуляй. — Не, не дзяржава, а чыноўнікі з будаўнічых арганізацыяў. Недаасвоілі недзе пяцьдзесят тысяч рублёў. Для будаўнічага ўпраўленьня нр. 64 Гродзенскага трэсту нр. 30 Мінпрамбуда БССР гэта, вядома-ж, капейкі, а нам — праблемы на доўгія гады. І няма да каго зьвяртацца. Былы начальнік пайшоў на павышэньне, а новаму і бяз нас спраў хапае. Яго можна і зразумець: ад Гродна да Губіч больш за шэсьцьсот кілямэтраў. Але-ж хто зразумее нас?..

Вядома-ж, у калгасе не сядзелі ўвесь гэты час бяз справы. Стварылі сваю будаўнічую брыгаду і вельмі многае зрабілі самі. У кожным доме выправілі недаробкі, а гэта-ж добры кавалак работы, бо пабудавана было больш за 130 дамоў. Давялі да ладу кацельную, многія іншыя аб'екты. Зрабілі-б і больш, ды няма будаўнічых матар'ялаў. Асабліва патрэбныя хоць-бы невялікія хлявы для жывёлы. Сёньня 86 сямей гатовыя трымаць кароў, ды няма дзе. Малако-ж малыя дзеці бачаць толькі на тэлевізары.

Мікалай Раманавіч прывёў дакладныя разьлікі — колькі чаго трэба. Начальства ў раённым цэнтры сказала, што калі выканаць калгасную заяўку, то ня хопіць і ўсяго раённага гадавога фонду. Пакуль не далі жаданых вынікаў і шматлікія калектыўныя пісьмы ў высокія інстанцыі.

Згодныя людзі і на калектыўны хлеў. Арганізавалі-б там каапэратыў, па чарзе даглядалі-б жывёлу, ды не выдзяляюць фондаў нават на гэту пабудову.

А вуліцы! Як сумна жартуюць мясцовыя жыхары, да дзіцячага садзіка можна даляцець хіба толькі на верталёце. Вашаму карэспандэнту давялося быць выпадковым сьветкам: у цэнтры Губіч на Гродзенскай вуліцы засеў малакавоз. Дружная кампанія хлопцаў у гумовых ботах не дапусьціла-такі, каб прадукцыя скісла. Падумалася толькі, ці ня ў гонар гэтай гразі, што пакінулі пасьля сябе гродзенцы, і назву далі вуліцы!

Аўралы, кампанейшчына... Славутыя мэтады работы нядаўніх часоў даюцца ў знакі перасяленцам. Калі спатрэбілася, за лічаныя месяцы пабудавалі людзям жыльлё! Дык чаму-ж нельга ўсё давесьці да ладу, як гэта і павінна быць у добрых гаспадароў?

Крыўдна людзям, што пра іх забыліся. Тым больш, што працуюць яны выдатна..."

---

**Прыходзіць момант, калі людзі пазнаюць, кажны індывідуальна, што праўда на іхнім баку, і яны павінны паўстаць супраць прыгнятальнікаў,**

*— так пісаў Француз* de Tocqueville *200 гадоў назад.*

---

## »РУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ» Ў БЕЛАРУСІ НЯ МЕСЦА!

Менскі часапіс "Беларусь" у нр. 10 за леташні лістапад зьмяшчае вялікі артыкул, із здымкамі, п.заг. "Руская Праваслаўная Царква". Здымкі пераважна зь Менску, дзе паказаныя сьвятары й вернікі ў катэдральным саборы і ў "Палацы прафсаюзаў". Гутарка пададзеная ў форме інтэрвью, якое вядзе прафэсар Менскага інстытуту культуры Валеры Няфёдаў. Удзел у ёй бяруць і мітрапаліт Філарэт, цяперашні пасланец маскоўскай *"Рускай Царквы"* ў Беларусь, які намагаецца трымаць нашых суродзічаў на маскоўскім павадку, дый іншыя Масквой пастаўленыя духоўнікі. Намінальна гутарка тая вядзецца з прычыны пазалеташняга сьвяткаваньня 1000 гадоў ад "хрышчэньня Русі", а пры гэтым дастойныя сьвятары зь мінамі пакоры і "умиления" гавораць аб вялікай маральнай ролі хрысьціянства ў жыцьці Славян, значыцца плаваюць па шырокіх славянскіх, перадусім расейскіх, а не беларускіх водах.

Але чаму гутарка ішла адно пра "рускую праваслаўную" і ня было аніводнага пытаньня пра гісторыю *Беларускай Мітраполіі ці Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, якая заўсёды імкнулася быць* **незалежнай ад Маскоўшчыны і пазьней ад Расеі?**

Часта чуем сяньня паўтаранае ў Беларусі цьверджаньне, што,
каб народ адрадзіўся, вярнуў сваю мову, культуру, асабістую й нацыянальную годнасьць, трэба як найхутчэй асьвятліць так званыя *белыя плямы* ў гісторыі беларускай нацыі. Згода. Трэба. Дык ці маем чакаць, калі зробяць гэта для нас чужынцы, у духоўным асяродзьдзі Масквой пастаўленыя расейскамоўныя сьвятары, каторых заданьнем ёсьць якраз зацямняць, а не асьвятляць тыя *"белыя плямы"?*

Чаму нічога дагэтуль ня чуваць пра тое як маскоўскія злачынцы й свае цівуны ліквідавалі Беларускую Праваслаўную Аўтакефальную Царкву ў 1922 годзе, а пазьней замардавалі ейнага першага ярарха мітрапаліта Мэльхізэдэка? Пытаньне зь іншага боку: чаму нашы суседзі Балты, Палякі, Украінцы , па дарозе да вяртаньня сваім народам незалежнасьці ад Масквы, насамперш аднаўляюць сьвятыні, вяртаюць сваім царкоўным інстытуцыям статус незалежнасьці ад Масквы й расейшчыны? Ці-ж мы, Беларусы, "народжаныя поўзаць, лётаць ня можам"?

Адраджэньне нашага шматпакутнага народу ўжо тармозяць нашыя суседзі-місіянеры з усходу й захаду, адныя із сваімі біскупамі Палякамі, іншыя зь мітрапалітам і вернымі Маскве айцамі. А ці-ж гэта не паўтарэньне мінулага?

У іншым сэктары шырокая грамадзкая актыўнасьць нашага нацыянальнага адраджэньня пачалася ад Курапатаў. У духоўнай зоне шырэйшае усьведамленьне збаламучанага грамадзтва можна пачаць ад... *гутаркі, зарганізаванай часапісам "Беларусь" на тэму*: **Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Яе мінулае і заданьні ў яе аднаўленьні.**

Ды не абавязкова, каб такую ці падобную гутарку арганізаваў часапіс "Беларусь". Можа заняцца гэтым нехта іншы. Усё-ж трэба зрабіць некаторыя росшукі, падрыхтаваць людзей, матар'ял. Але ці не найважнейшым ёсьць тое, каб вось часапіс "Беларусь" і іншыя часапісы й газэты, радыё й тэлевізія прадставілі тое як мага шырокае абмеркаваньне да ведама міліёнаў людзей. І тэма можа быць крыху іншая, але зьвязаная зь **Беларускай Праваслаўнай, незалежнай ад Маскоўшчыны-Расеі-СССР** царквой. Важна, каб такі шырокі сход вернікаў, навукоўцаў і сьвятароў у журналістычным рэпартажы зьявіўся і ў расейскамоўнай шматтыражнай прэсе. Людзі і свае, і чужыя, з прычынаў нам усім вядомых, нічога ня ведаюць пра Беларускую Праваслаўную Мітраполію, пра Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Абедзьве зьнішчыла Масква. Прыйшла пара гэтую белую пляму ліквідаваць.

## *І БУДЗЕ НАМ СОРАМНА*

Сёлета мінае 150 год ад нараджэньня Францішка Багушэвіча — бацькі беларускага адраджэньня, удзельніка паўстаньня супраць Маскоўшчыны ў 1863-64 гадох, "мужыцкага адваката", паэта, — запраўднага Вялікага Сына Вялікага Народу. Ягоныя словы "Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі" гучаць дэвізам цяперашняга адраджэньня шматпакутнай і паняволенай Маскоўшчынай Беларусі.

Такія круглыя ўгодкі нацыянальных гігантаў, як Францішак Багушэвіч, даюць нагоду, каб згадаць іх ня толькі словам, ці дакладам, але нечым большым. На бацькаўшчыне, дзе цяпер набірае сілы адраджэньне беларускае мовы й культуры, сёлета сьвяткуюць 500-я ўгодкі нараджэньня Францішка Скарыны, якія мы тут на эміграцыі сьвяткавалі ў 1985 годзе. Праўда, год нараджэньня Скарыны дакладна не ўстаноўлены, усё-ж сьвяткаваньне Скарынавых угодкаў ужо засьціла ды, — асьмелімся сказаць, — засьціць на працягу цэлага юбілейнага году Багушэвіча, ягоную памяць. Барані, Божа, ня маем намеру ўпікнуць тых, што намагаюцца сёлетнім сьвяткаваньнем вярнуць народу слаўнага сына з Полацку й ягоную спадчыну. Усё-ж, Багушэвіч бліжэй да нас часам, ягоныя словы, як жывая крыніца народнае магутнасьці, клічуць і сяньня нас у паход за адраджэньне нашае мовы, нашых народных і чалавечых правоў, нашае годнасьці беларускай, клічуць нас у паход за незалежную й вольную Беларусь. Вось таму мы й павінны гэты год Багушэвічавага юбілею адзначыць нечым больш манумэнтальным, чымся адно ўспамінамі пра бацьку нашага нацыянальнага адраджэньня.

Маючы якраз гэта на мэце, у лістападзе, 1987 году, у н-ры 48-м нашага часапісу быў зьмешчаны "Праект", які прадугледжваў узнагароды званыя прэміяй Багушэвіча за найлепшыя творы ў беларускай літаратуры ў розных жанрах; заахвочваньне сваіх і чужых, каб распрацоўвалі беларускую тэматыку; выдаваньне ў англійскай мове інфармацыйнай літаратуры пра беларускую культуру. Агулам — помач нашым літаратарам — асноўная мэта праекту. Таксама прапанавалася, што такая фундацыя мае паўстаць у Злучаных Штатах, бо там найбольшая колькасьць нашых суродзічаў на эміграцыі. Канада неўзабаве далучыцца. Фундацыя, што мае атрымаць правы харытатыўнай навуковай інстытуцыі, зможа існаваць і разьвівацца ды памагаць вольным беларускім літаратарам, незалежна ад таго дзе яны жывуць і твораць толькі тады, калі яе фінансава падтрымаюць свае й чужыя прыватныя асобы й інстытуцыі. Гэта-ж падтрымка будзе магчымая тады, калі ахвяры будуць tax exempt — вольныя ад дзяржаўных падаткаў. І яшчэ адно, надзвычайна важнае: такой фундацыі змогуць памагчы і амэрыканскія ці канадыйскія харытатыўна-навуковыя інстытуцыі, якія памагаюць усходня- эўрапэйскім культурным установам.

Наш народ у мінулым даў літаратуры многа гігантаў. Але вялікія творцы павінны мець глебу для росту, у тым ліку, а можа й насамперш, фінансавую падтрымку. Прэміі даюцца за выдатныя творы, якія нясуць славу свайму народу і ўносяць пэрлы чалавечай творчасьці ў сусьветную літаратуру. І ці патрэбна яшчэ раз прыгадваць, што каб наш, цяпер паняволены Маскоўшчынай, народ заняў "свой пачэсны пасад між народаў", туды, у сьвет вольных і ў сьвет тытанаў людзкой думкі, з пустой торбай ня пойдзеш...

З заклікам, каб падтрымалі нашу прапанову, мне давялося выступаць пазалетась у Тароньце на Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Летась, Зьезд Дэлегатаў і Сяброў Згуртаваньня Беларусаў Канады ў Тароньце падтрымаў нашу прапанову й даручыў мне зьвярнуцца ад імя арганізацыі да Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. А восеняй летась, на Кангрэсе БАЗА ў Нью Ёрку наша прапанова дыскутавалася й была адкінутая. Тыя, што выступалі супраць, цьвердзілі, што ў нас ёсьць ужо інстытуцыі, якія такімі справамі займаюцца.

Калі-б гэта было так... Можна з таго зрабіць выснаў, што гэтыя апанэнты праекту ня ведалі запраўды пра што йдзе, а тыя, што ведалі, прапановы праекту не падтрымалі.

На эміграцыі ёсьць людзі, якія-б фінансава такую інстытуцыю падтрымалі. А пра тое, у якім становішчы знаходзяцца таленавітыя творцы цяперашняй беларускай літаратуры, ці ім трэба памагаць, — вялікая тэма асобнай гутаркі. Яшчэ ня позна прыступіць да рэалізацыі гэтага праекту. Другой такой нагоды ня будзе.

*К. Акула*

## БЕМБЕЛЬ ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

Даведваемся зь "ЛіМ", Менск, за 22.XII.1989 г., што Алега Бембеля (Зьніча) прынялі ў Саюз пісьменьнікаў БССР. Нашыя чытачы на эміграцыі мелі магчымасьць чытаць напісаную ім і выданую ў 1985 годзе Згуртаваньнем Беларусаў у Вялікай Брытаніі працу п. заг. "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс." За напісаньне такой кнігі аўтара былі выкінулі з камуністычнай партыі і з працы. Быў ён навуковым супрацоўнікам Інстытуту Філязофіі і Права АН БССР.

Алег Бембель — выдатны паэт. Вось што піша пра яго "Студэнцкая думка", нр. 3, публікацыя суполкі "Сьвітанак": "Спадар Алег ня толькі нязломны змагар за **Беларускае адраджэньне,** але й паэт Божага дару, прычым паэт-хрысьціянін, які ўсёй сваей творчасьцю імкнецца прышчапіць нашым шчарсьцьвелым душам парасткі спрадвечнае хрысьціянскае маралі. Робіць ён гэта, выліваючы ў сваіх вершах шчырую любоў да Хрыста й Айчыны. Летась у Амэрыцы, у нюёркскім выдавецтве "Беларус" была выдрукавана яшчэ адна кніга Алега Бембеля — "Рэха малітвы".

Алег Бембель (Зьніч) вось так выказаў свае пачуцьці, калі быў гасьцём II-га Вальнага Сойму Беларускіх Патрыятычных Суполак у Вільні:

### ВАЛЬНЫ СОЙМ

... ля Кастуся, ля Гэдыміна,  
пад небам Віленскіх крыжоў  
мая палонная Айчына  
сабрала Сход сваіх сыноў.

... і Той, Хто быў — Нябачны — з намі,  
(тут шмат прыйшло — ў Яго імя!..),  
жывіў Ліцьвінаў Сьвятарамі...  
маленьні вернікаў прыняў...

Сусьветаў і Сьвятла Араты  
араў праменную Ральлю...  
Сьвятар — хто ў сэрцах творыць Сьвята...  
хто лучыць Неба і Зямлю...

Сьвяты палёт Пагоні вольнай...  
на Плашчаніцы — Краю кроў...

... на Вальным Сойме  
ў Вільні Стольнай  
я чуў Крывіцкіх Сьвятароў!..

*Менск-Вільня, 14-15 студзеня, 1989*

А іншы верш, узяты намі зь "Весткі Адраджэньня", нр. 2, адносіцца да стаўленьніка маскоўскай "рускай царквы" ў Беларусі:

Ёсьць запавет — зусім ня новы,  
яго Хрыстос не адмяняў:  
хай услаўляюць усе мовы  
Сьвятое Божае імя.

І вось за морам, недарэчы,  
даводзіць наш Мітрапаліт  
"...на том искуственном наречьи  
наш чин в церквах не говорит...

народ желает речь иную..."

Калі то праўда, Філарэт,  
Вы на палітыку зямную  
зьмянілі Божы запавет!



Пётра Конюх, 1952 г.

## *ВІНШУЕМ ПЁТРУ КОНЮХА*

нашага сябру-вэтэрана, выдатнага беларускага й агульнаведамага сьпевака, ахвярнага Суродзіча, які пашыраў нашу песьню па цэлым сьвеце,

**у 80 гадоў ад нараджэньня!**

і жадаем Яму добрага здароўя й памыснай плённай будучыні!

Памажы Табе Божа, Пётра!

*"Зважай"*

**»Сьпеўны сьвет Пётры Конюха».**

Пад такім загалоўкам Тадэвуш Валік апісвае "нязвычайную кар'еру" народжанага ў Турцы на Наваградчыне ў 1910 годзе нашага выдатнага суродзіча, опэрнага баса, у часе апошняй вайны жаўнера 8-й Брытанскай арміі (польскага 2-га корпусу) Пётры Конюха, што цяпер жыве ў Сан Кэтрынес, блізка на поўнач ад вадападу Нягара ў Канадзе.

Артыкул пра Конюха зьмясьціла чыкагская польская газэта "Dziennik Związkowy [Zgoda]" за 22-23 сьнежня летась. Напісаны ён у прыязным тоне, галоўна пра тое, як Пётра Конюх вучыўся, пракладаў сабе дарогу і адкрыў дзьверы найважнейшых опэрных тэатраў, пераважна ў Эўропе, ды пасьля із сусьветна-слаўным хорам Донскіх Казакоў Жарава сьпяваў па цэлым сьвеце.

Недарэчным ува ўсім гэтым прыязным тоне скрыпам ёсьць згадка, што Пётра Конюх нарадзіўся ў Турцы "у сям'і беларускай"... на "Крэсах Усходніх". У сяньняшняй палітычнай каньюнктуры Беларусаў і Палякаў, калі разумныя людзі хочуць загаіць калісь зробленыя нам Палякамі раны, лепш было-б сказаць, што наш выдатны сьпявак нарадзіўся ў Беларусі пад польскай акупацыяй.

## БЕЛАРУСКІЯ СЬЦЯЖКІ

Згуртаваньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў выдала нагрудныя беларускія нацыянальныя сьцяжкі. Цана (у Канадзе) — 6 даляраў, у Злучаных Штатах — 5 даляраў. **Зьвяртацца, прысылаючы загадзя грошы, да "Зважай" або да ЗБАВ (адрас на першай бачыне нашага часапісу).**

## 69-я ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

Як і кажны год, у лістападзе, Беларусы ўва ўсіх вольных краінах сьвету сьвяткуюць угодкі Слуцкага Збройнага Чыну, які часамі называюць Слуцкім паўстаньнем супраць маскоўска-бальшавіцкіх захопнікаў, што пачалося пад кіраўніцтвам ураду Беларускай Народнай Рэспублікі й Рады Случчыны 27 лістапада 1920 г. Падаём весткі пра сьвяткаваньне зь некаторых нашых асяродкаў у леташнім лістападзе.

### ТАРОНТА

Сьвяткавалі ў нядзелю 26-га лістапада. Пасьля сьв. Літургіі ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага служылі паніхіду за аддаўшых жыцьцё за вольнасьць беларускага народу. Вынесеныя сьцягі трымалі Віктар Харэвіч і др. Раіса Жук-Грышкевіч. Першы Ярарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы архіяпіскап Мікалай у сваёй пропаведзі выказаў спадзяваньне, што надыйшоў час гібелі камунізму ды што да часу вызваленьня народаў з маскоўскага ярма шмат хто з нас дажыве.

У вялікай залі ўшанавалі памяць загінуўшых ды адсьпявалі "Сьпі пад курганам гэрояў". Прачытаныя былі прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў у Вольным Сьвеце з нагоды сьвята. Паанглійску сказала прынагоднае слова сп-ня Юльляна Грыцук-Мэкарская, якая заклікала нашых суродзічаў да большай актыўнасьці й да помачы ахвярам чарнобыльскае катастрофы. Пабеларуску гаварыў пра народны гэраізм і ахвяры ў змаганьні за незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. М. Ганько. Вітаў прысутных і старшыня Рады БНР др. Я. Сажыч.

Пасьля нацыянальнага гімну гутарылі пра рознае, але найбольш пра тое, як памагчы ахвярам чарнобыльскае катастрофы.

### КЛІЎЛЕНД

Вечарам 11-га лістапада адбылася нарада вэтэранаў у залі пад мясцовай беларускай царквой. Прысутныя тут былі: Янка Каваленка, Янка Ханенка, Андрэй Стрэчань, Янка Раковіч, Міхась Белямук, Валодзя Дунец і прыехаўшы старшыня Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў маёр С. Гутырчык. Былі інфармацыі пра вэтэранскую дзейнасьць, а таксама пытаньне ўдзелу вэтэранаў сёлета ў Сусьветнай Сустрэчы Беларусаў, якая мае адбыцца там-жа ў Кліўлендзе ў пачатку верасьня. Даручылі камандзеру ЗБАВ дамовіцца з Галоўнавй Упраавай Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

У нядзелю сьв. Літургію ў царкве Жыровіцкай Божай Маці служыў а. М. Страпко, яму памагаў а. Якуб. Надзвычайна прыгожа сьпяваў царкоўны хор, якім кіраваў інж. К. Калоша. Для паніхіды за паўшых у



*Удзельнікі сьвята на сцэне*

змаганьні вынесьлі сьцягі, якія трымалі сяржант Андрэй Стрэчань і Алесь Кастуровіч. За імі ў двух радох стаялі вэтэраны на чале із старшынём Рады БНР генэралам Я. Сажычам.

На залі, упрыгожанай сьцягамі ЗША й Беларусі, ды з сымбалічнай магілай на сцэне акадэмію адчыніў надлейтанант Янка Каваленка, камандзер ЗБАВ адзьдзелу Огаё-Мічыган. Таня Кананчук і Оля Лукашэвіч, у прыгожых нацыянальных вопратках, узлажылі вянок кветак на сымбалічную магілу. Хвілінаю цішыні ўшанавалі паўшых. Юрка Азарка чытаў даклад на тэму дня. Выступаў і прысутны старшыня Рады БНР ген. Я. Сажыч, які згадаў 50 гадоў назад распачатую Другую сусьветную вайну, у якой у першыя-ж дні ў польскай арміі загінула не за свае інтарэсы шмат Беларусаў.

Камандзер ЗБАВ на Амэрыку маёр Сяргей Гутырчык выступіў з прывітаньнем у вайсковай манеры ды сказаў, што трэба "ня толькі быць удзельнікамі сяньняшняга сьвяткаваньня, але й добрымі вэтэранамі-змагарамі за тыя ідэалы, за якія сумленна й сьвядома аддалі сваё жыцьцё нашыя нацыянальныя гэроі".

Міхась Белямук чытаў ліст ад сябры Беларускага Народнага Фронту зь Менску пра тое, што там адбылося падчас традыцыйнага сьвята Дзядоў. Хор інж. Калошы прасьпяваў некалькі патрыятычных песьняў. Пасьля нацыянальнага гімну др. Ала Орса-Рамано высьвятляла слайды й відэо з падарожжа летась летам па Беласточчыне танцавальнага ансамблю "Васілёк", якім Ала кіруе. Удзельнікі надзвычайна добра выканалі сваю, калі выпадае так назваць, місію, за што Алу называюць беларускім амбасадарам на Беласточчыне.

Падзяка належыцца адзьдзелу ЗБАВ Огаё-Мічыган за сабраныя ахвяры на беларускія нагрудныя сьцяжкі ў суме 255 даляраў ды за іхную вялікую гасьціннасьць. Вэтэранскае шчырае дзякуй, вам, Сябры.

*С. Пчала*

## НЮ БРАНСВІК

У сыботу 2-га сьнежня вэтэраны злажылі вянок на помніку Беларускім Гэроям у Іст Брансвік і ўдэкаравалі магілы вэтэранаў, сяброў Рады БНР маленькімі бел-чырвона-белымі сьцяжкамі. Назаўтра ў царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку а.прат. Васіль Андрэюк служыў Сьв. Літургію. Прыгожа сьпяваў царкоўны хор, якім кіраваў Якуб Сапежынскі. Падчас паніхіды стаяла сьцяжная варта й маліліся за гэрояў Случчыны і ўсіх змагароў за вызваленьне Беларусі, за ахвяры Чарнобыльскае катастрофы й нявінныя ахвяры ў Курапатах ды іншых няведамых месцах закатаваных ворагам суродзічаў.



*Вэтэранская сьцяжная варта падчас паніхіды. Служыць а. В. Андрэюк*

Урачыстасьць прысьвечаную нашым Гэроям адчыніў старшыня Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў маёр Гутырчык. Пасьля салюту сьцягом, адсьпявалі "Беларусь — наша Маці-краіна". Маёр Гутырчык прачытаў пісьмовае прывітаньне ад старшыні Рады БНР ген. Язэпа Сажыча.

Апроч сваіх вэтэранаў і гасьцей на ўрачыстасьці прысутнічалі прадстаўнікі Амэрыканскага Задзіночаньня Вэтэранаў Рарытанскае Даліны — заступнік камандзера Стэла Слокум і старшыня кіраўніцтва парадамі Анна Шопф. Ад Украінцаў прысутнічаў сп. Шаўчэнка. Галоўны рэфэрат на тэму дня ў ангельскай мове чытаў старшыня Беларуска-Амэрыканскае Моладзі інж. Юрка Азарка, у беларускай мове — маёр Міхась Тулейка. З прывітальнай прамовай выступіў др. Янка Запруднік, галоўны рэдактар газэты "Беларус"; гаварыў ён пра беларускі нацыянальны адраджэнскі рух і ягонае змаганьне ў сучасных абставінах на бацькаўшчыне ды ролю мовы й рэлігіі ў нацыянальным адраджэньні. Мгр. А. Шукелойць — старшыня Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня у сваёй прамове выказаў прапанову, каб ЗБАВ выдала брашуру пра Слуцкае змаганьне супраць Масокўшчыны ў 1920 годзе. На Беларусі цяпер ёсьць вялікае зацікаўленьне гісторыяй абвешчанай у 1918 годзе незалежнай Беларускай Народнай Рэспубліцы і Слуцкім паўстаньнем. Інж. Вячаслаў Станкевіч, працаўнік радыя "Свабода", гаварыў пра перадвыбарную кампанію ў Беларусі ды ролю эміграцыі ў дапамозе суродзічам удома змагацца за свае правы.

У мастацкай частцы кампазытар і сьпявак Пётра Звонны, што стварыў шмат вайсковых песьняў, выканаў іх некалькі з акардыёнам. "Ідуць жаўнеры Беларусы" сьпявалі ўсе прысутныя. Урачыстаць закончылі адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Падзяка належыцца парафіі за бясплатную залю, дзяўчатам Таісе і Альжбеце Андрэюк — за прышпільваньне нацыянальных какардаў на ўрачыстым Сходзе. Старшыні адзьдзелу БАЗА ў Ню Ёрку, сп-ру А. Міцкевічу дзякуем за 150 даляраў на беларускія значкі, што выдала ЗБАВ. Вэтэранскае шчырае дзякуй.

*Сяргей Пчала*



*На здымку ў першым радзе зьлева направа: лейт. Пётра Кажура, заст. камандзера Стэла Слокум, старшыня парадаў Анна Шопф.* Здымкі М. Тулейкі.

## СПАЧУВАНЬНІ

выказваем сям'і Алега Дубягі з прычыны сьмерці маткі, бабы й настаўніцы Соні Дубяга. Вечная Ёй памяць!

## *"ВУЧЫМСЯ МОВЕ"*

Пад такім загалоўкам Бюлетэнь Каардынацыйнае Рады Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак "Супольнасьць", нр. 4, за чэрвень-ліпень летась на апошняй бачыне зьмяшчае "моўныя гутаркі", а аўтары запэўніваюць сваіх чытачоў, што мова "павінна быць чыстая і пісьменная". Згода. Дык чаму-ж тады расейшчына так у вас загаспадарыла, што нават улезла ў ваш загаловак?

Парасейску кажуць: учиться *чему* (назоўнік у давальным склоне), пабеларуску-ж — вучыцца *чаго* (назоўнік у родным склоне). Дык трэба пісаць "вучымся *мовы"*, а ня "вучымся *мове"*.

## КАБ ВЫДАЦЬ ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЮ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Плянуецца выданьне вялікае, на 5-7 томаў, энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі. Як падае "Літаратура і Мастацтва" за 10-га лістапада летась, у Менску адбылося паседжаньне навукоўцаў у гэтай справе. Прапануецца шмат увагі пасьвяціць этапу адраджэньня Беларусі і яе дзеячоў, выдатным дзеячом розных пэрыядаў нашай гісторыі, пра якіх да гэтага часу нават ня згадвалася.

"У выступленьнях адзначалася, што энцыкляпэдычныя распрацоўкі створаць базу для напісаньня новых падручнікаў зь гісторыі БССР як для школаў, так і для ВНУ. Былі выказаныя пажаданьні, каб энцыкляпэдыя адлюстроўвала гісторыю беларускага народу, а ня гісторыю рэспублікі. Бо, як вядома, за межамі сучаснай Беларусі жыве 3 міліёны Беларусаў.

Несправядліва і неразумна абыходзіць маўчаньнем іхнюю дзейнасьць у галіне навукі й культуры, гісторыка-культурныя цэнтры, бібліятэкі, пэрыядычныя выданьні, якія створаныя Беларусамі на эміграцыі. Да прыкладу, тыя-ж газэты "Бацькаўшчына", "Беларус", "Зважай" і іншыя, беларускі архіў у Ню Ёрку, бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лёндане і іншыя цэнтры беларусазнаўства".

## *СКАРПІЁН І МУДРЭЦ*

У сувязі зь "перабудовай", розныя людзі намагаюцца адгадаць "тайніцы" яе. Быццам яны скамплікаваныя. "Раскаваным рабом" ці раз даводзілася паклікаць заходніх індустрыялістаў і бізнэсмэнаў на помач, каб падапхнуць у маршы да "сьветлае будучыні камунізму" розныя маскоўскія "тачанкі". І каб ня гэтая помач, даўно адыйшла-б у нябыт бальшавіцкая мафія.

На гэтую тэму піша выдатны канадыйскі пісьменьнік і журналіст Джордж Джонас у "Toronto Sun", 19.6.1989 г.:

"Нашыя ўрады, не гаворачы ўжо пра інтэлектуалаў і тварцоў грамадзкае апініі, — і, апошнім часам нават сэктары нашага банкавага й бізнэсавага грамадзтва, — быццам знаходзяцца ў дрыгве бяздонных ілюзіяў калі йдзе пра свае адносіны да камунізму.

Людзі гэтыя нейкім чынам прыпамінаюць мне індыйскага мудраца (сьвятога чалавека) з казкі Вальтэра, які ратаваў скарпіёна, што тапіўся ў рацэ. Калі толькі выцягне яго з ракі, скарпіён джгне мудраца ды зноў падае назад у ваду. Наапошку адзін зь ягоных вучняў спытаўся чаму ён усё намагаецца ратаваць ядавітую істоту, калі яна кажны раз яго кусае.

— Ведаеце, — адказаў сьвяты чалавек, — гэта не яго віна, што ён кусае мяне, бо ён скарпіён. А я не магу не ратаваць яго, бо я — сьвяты чалавек.

Гэты горкі кавалачак азіяцкае мудрасьці, пададзены ў смачным францускім сосе Вальтэра, выглядае вельмі трапным. Магчыма, што нам усім наканавана захоўвацца згодна нашае натуры. Калі гэта так, дык у найлепшым выпадку будзем спадзявацца, што скарпіён утопіцца перад тым, пакуль ядам заб'е нас на сьмерць."

## *"ГАЛОСНАСЬЦЬ"*

Гэты едкі жарт, што нарадзіўся ў краіне „галоснасьці" й "перабудовы" і "нябывалага росквіту" сацыялізму, ходзіць цяпер у сьвеце між вольных людзей.

Савецкі грамадзянін параўноўваецца да сабакі на прывязі. На адлегласьці пяці мэтраў паставілі яму міску зь ежай, але ланцуг адпусьцілі толькі на два мэтры. — Але, дзякуючы галоснасьці, можаш цяпер брахаць колькі хочаш! — сказалі яму гаспадары.

## РЭДАКТАР "ЗВАЖАЙ" НА ПЭНЬСІІ

Летась у лістападзе рэдактару "Зважай" Кастусю Акулу споўнілася 64 гады. Паводля канадыйскіх нормаў мог-бы яшчэ адзін год працаваць. Апошнія 15 гадоў ён у вялікай кампаніі Брыстал Маерс (фармацэўтыка й хімпрадукты дамашняга ўжытку) працаваў загадчыкам вялікага складу тавараў. Перад Новым Годам пайшоў на пэньсію.

Дзясятага студзеня ў таронцкім рэстаране кампанія наладзіла для нашага рэдактара 'retirement party', на якой прысутнічалі блізкія супрацоўнікі й начальнікі, у іх ліку й віцэ-прэзыдэнт кампаніі. Пэньсіянер атрымаў падаркі, добрыя пажаданьні, а найважнейшае зь іх — каб нарэшце напісаў тую найлепшую й найцікавейшую кніжку, працаваць над якой да гэтага часу ня было калі...

## УВАЗЕ ЧЫТАЧОЎ

Нашы чытачы на бацькаўшчыне атрымліваюць часапіс дарма. Агульна ёсьць у нас уражаньне, што суродзічы, якія жывуць на роднай зямлі, маюць скупыя весткі пра нашую эміграцыю, беларускую гісторыю, культуру. Калі хто мае ў гэтых галінах якія пытаньні, пастараемся адказаць. Пішачы да нас, неабходна зазначыць наступнае: якую часьць ліста маем зьмясьціць у часапісе, які мае быць подпіс.

## УВАГА!

Ужо выйшла з друку й прадаецца выданая Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва кніга артыкулаў і нарысаў

**»ПРАЗ РОК-ПРЫЗМУ»**

*Вітаўта Мартыненкі і Анатоля Мяльгуя.*

Гэта першая, выданая на эміграцыі, кніга аўтараў, што цяпер жывуць і працуюць на Беларусі. Яны разглядаюць гісторыю рок-музыкі ад яе росту на Захадзе, у краінах "народнае дэмакратыі" ды характарызуюць разьвіцьцё галоўных рок-гуртоў у Беларусі. У кнізе каля 70 здымкаў.

Кніга выдана абмежаваным тыражом. Пра тое, дзе яе купіць у Беларусі павядомяць зацікаўленыя людзі. У Канадзе можна выпісваць праз "Зважай". Цана — 30 дал. У Злучаных Штатах можна яе купіць у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва. Цана — 25 даляраў. Адрас: 230 Springfield Ave., Rutherford, N. J. 07070, U. S.

## ЦЫТАТА НА СЯНЬНЯ

**Адно з самых недаравальных злачынстваў сталіншчыны — ліквідацыя традыцыйнай хрысьціянскай маралі, спрадвечнай сыстэмы элемэнтарных жыцьцёвых правілаў, звычайна ня надта паважанага, але незаменнага ў жыцьці здаровага сэнсу. Некалі імі ў поўным аб'ёме валодаў народ, цяпер-жа не валодае ніхто.**

**Страціўшы духовую аснову, грамадзтва страціла і нармальны здаровы сэнс, нічога заміж таго ня прыдбаўшы; марксызм аказаўся няздольным запоўніць глыбокі духовы вакуум, які ўтварыўся ў грамадзтве. Грамадзтва-ж без маралі наўрад ці здольнае дасягнуць шмат у галіне дэмакратычнага права, стварыць дасканалае заканадаўства. Законы, у сваю чаргу заснаваныя на часовай рэлятыўнай мэтазгоднасьці, ад моманту іх прыняцьця непазьбежна трапляюць у супярэчнасьць са здаровым сэнсам, а нярэдка і з элемэнтарнай лёгікай. Гэта — мёртванароджаныя законы, у нас іх было нямала ў мінулым і прыбавілася за апошні час. Але мёртванароджаныя законы пазбаўленыя карысьці ў дэмакратычным грамадзтве, — у таталітарным-жа яны непазьбежна робяцца падставай для дэспатыі і беззаконьня.**

*Васіль Быкаў, народны дэпутат СССР*
*"Назад ці наперад", "Літ. і Маст",*
*Менск, 24, XI, 1989 г.*




Донато, "Торонто Сан"

## АБВЕСТКА

Мінулі дзесяцігодзьдзі з таго часу, калі Вы разьвіталіся з Бацькаўшчынай. Вашы дзеці і ўнукі ведаюць пра яе толькі з аповядаў...

Рэклямнае агенцтва "Навіна" пры каапэратыве "Белагратэхніка" гатовае дакладна і ў тэрмін выканаць Вашыя прыватныя замовы на слайд-фільмы ды паліграфічна выдадзеныя альбомы пра Беларусь і пра Вашыя родныя мясьціны; на магнітафонныя і відэа-касэты з запісамі народных песьняў, звычаяў і сьвятаў; на беларускія сувэніры і кафлю (копіі вырабаў беларускіх цаніньнікаў 17-18 ст.). Мы бярэмся арганізаваць прыватныя вандроўкі па памятных для Вас месцах Беларусі, Віленшчыне і Украіне.

Вы можаце таксама даведацца пра палітычнае жыцьцё Бацькаўшчыны, пра дзейнасьць грамадзкіх рухаў і згуртаваньняў, якія стаяць у цэнтры чацьвертага беларускага Адраджэньня, — Беларускага Народнага Фронту і Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак, Таварыства Беларускае Мовы і Беларускага Экалягічнага Саюзу, Талакі і Тутэйшых.

Ж Ж Ж

Рэклямнае агенцтва "Навіна", каапэратыў "Белагратэхніка" прапануюць беларускім таварыствам і згуртаваньням у ЗША, Канадзе, Аўстраліі ды іншых краінах Вольнага Сьвету афармленьне інтэр'ераў грамадзка-культурных цэнтраў, арганізацыю падарожжаў на Беларусі, Віленшчыне і Украіне.

Рэклямнае агенцтва "Навіна"
Каапэратыў "Белагратэхніка"
БССР, Менск, вул. К. Маркса, 5.
Тэл.: 224838
Telex: 252193 'KVARK SU'

## ДАПАМОЖАМ БЕЛАРУСКАМУ НАРОДНАМУ ФРОНТУ

Гэтым зьвяртаемся да нашых сяброў-вэтэранаў ува ўсіх краінах, а таксама ўсіх нашых суродзічаў з просьбай адбіткі вышэйпададзенай абвесткі павесіць між іншых абвешчаньняў у грамадзкіх будынках і пры сьвятынях.

"НАВІНЫ" Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", якія да гэтага часу выходзілі малым памерам, ужо зьявіліся газэтным фарматам (вялічыні ўдвая "Зважаю") і нармальным друкам. Просім сяброў нашых вэтэранскіх адзінак і наагул нашых чытачоў падтрымаць "Навіны". Грошы на падпіску і ахвяры можна прысылаць на "Зважай". Мяркуем, што газэта "Навіны" будзе зьяўляцца прынамся раз у месяц.

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", — каб яго пачуў цэлы наш народ, — павінен мець свой незалежны й моцны голас. Падтрымаць яго — наш абавязак!

*"Зважай"*

## ФОНД »ЗВАЖАЙ»

Ад 15-га кастрычніка летась да 20-га студзеня сёлета на "Зважай" прыбыло: Раецкі — 17.00 дал., В. Кажан — 23.21, А.Храноўскі — 10.00, Юля Андрусышын — 17.00, А. Высоцкі — 20.00, др. Л. Трусэвіч — 40.60, Ч. Найдзюк — 6.00, К. Каранеўскі — 100.00, Оля Качан — 20.00, С. Гутырчык (з продажы) — 62.00, М. Шуст — 10.00, К. Калоша — 23.00, Б.Даніловіч — 29.00, Я. Запруднік — 24.00, Б. Кірка — 10.00, Аўген Кажан — 36.00, К. Мярляк — 29.50, Я. Гавеньчык (з продажы) — 36.00, М. Махнач — 37.00, М. Сазановіч — 45.00, А.Лашук — 23.50, Бібліятэка зь Ню Ёрку — 12.00, К. Акула (з продажы) — 12.00. П. Конюх — 10.00. М. Буцько - 10.00 М. Пракопчык - 20.00.

*Усяго - 682.81. Усім вельмі дзякуем за помач.*